# НЕ ХВАРЭЙ! О, МАЯ БЕЛАРУСЬ, НЕ ХВАРЭЙ!



# ЯК ЦЯБЕ ВЫБАВІЦЬ З ГЭТАГА ГОРА?





# ЗВЯЗДА

26 красавіка 1996 г. пятніца, № 107 (22910)



● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў


## ЗВАРОТ

### ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ А. Р. ЛУКАШЭНКІ ДА БЕЛАРУСКАГА НАРОДА Ў СУВЯЗІ З 10-годдзем З ДНЯ АВАРЫІ НА ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ АЭС

Дарагія суайчыннікі!

Паважаныя грамадзяне Рэспублікі Беларусь!

Мінула дзесяць гадоў з той трагічнай ночы, калі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі адбылася страшная па сваіх выніках катастрофа.

У тыя горкія красавіцкія дні 1986 года мы сутыкнуліся з бядой, якой яшчэ не ведала чалавецтва.

Чарнобыльская трагедыя абпаліла мільёны людскіх лёсаў — кожнага пятага беларуса.

Больш за два мільёны чалавек, якія жылі на чвэрці тэрыторыі рэспублікі, падвергліся радыяцыйнаму ўздзеянню.

Паводле самых прыблізных падлікаў, эканамічны ўрон, нанесены Беларусі гэтай аварыяй, склаў 32 гадавыя бюджэты рэспублікі, ці 235 млрд. долараў ЗША.

Яна вывела з гаспадарчага абароту велізарныя плошчы вельмі ўрадлівых зямель.

На чарнобыльскіх тэрыторыях спынілі работу каля трохсот аб'ектаў народнай гаспадаркі, 95 бальніц, 54 буйныя сельскагаспадарчыя аб'яднанні, 600 школ і дзіцячых садкоў, 550 прадпрыемстваў гандлю, грамадскага харчавання і бытавога абслугоўвання. Жыхары вымушана пакінулі звыш чатырохсот населеных пунктаў.

За гэтай статыстыкай — лёсы канкрэтных людзей, іх надзеі.

Для таго, каб знайсці правільныя рашэнні на сёння і заўтра, мы павінны атрымаць урокі з першых дзесяці гадоў пасля Чарнобыля.

Усе мы памятаем, які гэта быў час. Маштабы чарнобыльскай катастрофы спачатку не змаглі адэкватна ацаніць не толькі былое кіраўніцтва краіны, але і сусветнае супольніцтва. Былі спробы замоўчвання, трагічныя памылкі.

Але было і іншае — на пераадоленне вынікаў Чарнобыля былі мабілізаваны рэсурсы велізарнай дзяржавы. Упэўнены, калі б Савецкі Саюз працягваў існаваць, то многія чарнобыльскія праблемы былі б ужо вырашаны. Дастаткова сказаць, што ў 1995 годзе пры неймаверным напружанні эканомікі Беларусь змагла накіраваць на пераадоленне чарнобыльскай бяды сродкі ў памеры дзесятай часткі ад аб'ёмаў сродкаў, якія выдзяляліся на гэтыя мэты ў СССР.

Калі я быў народным дэпутатам і выступаў у 1991 годзе супраць развалу Савецкага Саюза, я перш за ўсё думаў аб тым, што будзе, калі Беларусь застанецца з чарнобыльскай бядой сам-насам.

Але ў той час палітычныя амбіцыі ўзялі верх над інтарэсамі народа. Вядомыя палітыкі выкарыстали чарнобыльскую трагедыю як казырную карту ў сваёй палітычнай гульні. Замест цвярозых і ўзважаных адносінаў да вырашэння праблем, выкліканых чарнобыльскай катастрофай, яны практыкавалі правядзенне мітынгаў, імкнучыся аказваць націск на органы ўлады і кіравання.

Вось ужо дзесяць гадоў палітычныя авантурысты разыгрываюць гэту карту, нічога не робячы для людзей, якія пацярпелі ад катастрофы. У гэтыя дні яны зноў спрабуюць выкарыстаць Чарнобыль для таго, каб паправіць свой палітычны капітал.

У сувязі з гэтым заяўляю: нічога, спадары, у вас не атрымаецца. Народ не той...

Важнейшы ўрок мінулага дзесяцігоддзя заключаецца ў наступным: чарнобыльскую трагедыю, народнае гора нельга ператвараць у інструмент задавальнення чыіх бы там ні было палітычных амбіцый. Пара зразумець, што радзіма ў нас адна, зямля таксама адна.

Усе мы павінны аб'яднацца ў імя выжывання нацыі і пераадолення нашай агульнай бяды.

Першай і галоўнай, безумоўна, для нас сёння застаецца праблема захавання здароўя людзей: дзяцей, ліквідатараў, усіх, хто пацярпеў ад аварыі.

Абавязак дзяржавы — прадаставіць усім пацярпеўшым медыцынскую дапамогу ў тых маштабах, якія неабходны ім у гэты складаны час.

Пад асабістым кантролем Прэзідэнта будзе знаходзіцца лячэнне паўтары тысячы цяжкахворых дзяцей. Для аздараўлення дзяцей будуць працаваць беларускія здраўніцы на нашай тэрыторыі і за мяжой.

Мы дагаварыліся з расійскім кіраўніцтвам аб выкарыстанні санаторыяў Расійскай Федэрацыі для аздараўлення нашых грамадзян, якія пацярпелі ад Чарнобыля.

У падтрыманні здароўя людзей прымаюць удзел і розныя фонды. На глыбокі жаль, некаторыя з іх спрабуюць рабіць грошы на чарнобыльскай бядзе. Дзяржава не можа абыякава глядзець на тое, як на народным горы нажываюцца чыноўнікі, камерсанты, дзеячы псеўдачарнобыльскіх фондаў.

Трэба ўстанавіць жорсткі грамадскі кантроль за размеркаваннем гуманітарнай дапамогі, што паступае з-за мяжы. Яна павінна даходзіць да адрасатаў, а не асядаць у камерцыйных ларках. Асноўная частка гуманітарнай дапамогі будзе паступаць па дзяржаўнай лініі.

Не менш важнай задачай з'яўляецца стварэнне нармальных умоў для жыцця людзей на забруджаных тэрыторыях.

Літаральна гэтымі днямі я наведаў чарнобыльскія раёны, з болем у сэрцы назіраў, у якіх няпростых умовах жывуць там людзі.

Асабліва мяне абурыла, што мясцовыя ўлады не робяць для людзей таго, што ў іх сілах. Арганізацыя і падтрыманне аўтобуснага руху, падвоз харчавання, забеспячэнне лекамі і многія іншыя пытанні ў жыцці людзей павінны вырашацца мясцовымі кіраўнікамі.

У кожным чарнобыльскім раёне трэба ўзяць на ўлік і падтрымаць усіх адзінокіх, хворых, якія не маюць сродкаў для нармальнага жыцця. Міністэрствам фінансаў для гэтага мэтавым назначэннем будуць выдзелены сродкі чарнобыльскім райвыканкомам.

Мы павінны захаваць бясплатнае харчаванне ў школах, дзіцячых садках і яслях. Бясплатным павінна быць аздараўленне людзей, якія жывуць у чарнобыльскай зоне.

Учора мной аддадзена распараджэнне ўраду аб захаванні бясплатнага харчавання і бюджэтнага фінансавання аздараўлення дзяцей на тэрыторыях, прызнаных чыстымі.

Сучаснае і будучае гэтых раёнаў у многім залежыць ад наяўнасці ўрачоў у бальніцах і настаўнікаў у школах. Становішча, якое склалася ў гэтай сферы, больш не можа быць цярпімым.

Міністры І. Драбышэўская, В. Стражаў, І. Кенік нясуць персанальную адказнасць за тое, каб да 1 верасня бягучага года ўсе пасады медыкаў і педагогаў у чарнобыльскай зоне былі ўкамплектаваныя.

Цяпер мы пачынаем пажынаць плады раней учыненага бяздумнага адсялення з чарнобыльскай зоны насуперак жаданню людзей. Сёння многія вяртаюцца ў свае пакінутыя дамы, бо хочуць жыць і працаваць у родных мясцінах.

Перакананы, што ўлада не мае права ставіць перашкоды на шляху гэтых людзей. Гэта будзе не па-хрысціянску, не па-людску.

Ёсць надзея, што некаторыя пацярпеўшыя раёны пры мэтанакіраванай дзяржаўнай падтрымцы з цягам часу могуць быць вернуты да жыцця. Паважаныя сябры, мы яшчэ вернемся ў свае вёскі, на сваю зямлю. Я ў гэтым перакананы. З майго боку вы атрымаеце ўсялякую падтрымку.

Даследаванні апошніх гадоў сведчаць аб тым, што пры правядзенні комплексу спецыяльных аграрэхнічных, аграхімічных і іншых работ мы можам на гэтых землях атрымліваць экалагічна чыстую прадукцыю. А насельніцтва пры захаванні ахоўных мераў зможа нармальна жыць і забяспечваць сябе.

Усё гэта можа быць дасягнута толькі пры ўмове мэтавага выкарыстання сродкаў, перш за ўсё ў чарнобыльскай зоне. Ранейшая практыка, калі сродкі, што выдзяляліся на чарнобыльскія патрэбы, размяркоўваліся па ўсёй тэрыторыі краіны, сябе не апраўдала.

Упэўнены, што ў чарнобыльскіх раёнах павінен быць узорны парадак ва ўсім. Тут павінна быць якаснае будаўніцтва, высокія стандарты медыцынскага і бытавога абслугоўвання, работы і адпачынку. Тое, што я ўбачыў у Хойніцкім раёне, пераконвае мяне ў тым, што такі ўзровень арганізацыі зусім рэальны. Трэба толькі належным чынам узяцца за справу.

Пытаннем, якое закранае лёсы соцень тысяч людзей, з'яўляецца паляпшэнне ўмоў жыцця перасяленцаў.

На гэтыя мэты дзяржава выдзяляе вялікія сродкі, але выкарыстоўваюцца яны не заўсёды эфектыўна.

Калі я быў гэтымі днямі ў Магілёўскай вобласці, сутыкнуўся з фактамі абуральнай безадказнасці.

Пабудаваныя для перасяленцаў, але не ўведзеныя ў эксплуатацыю пасёлкі знаходзяцца ў запушчаным стане, раскрадаюцца.

Людзі скардзяцца на безуладдзе і абыякавасць кіраўніцтва, на цэны, якія без канца накручваюць базы Белкаапсаюза. Часта насельніцтва не можа купіць самае элементарнае, перш за ўсё медыкаменты.

Прама на нарадзе ў Магілёве за нездавальняючае ўтрыманне чарнобыльскіх пасёлкаў я вымушаны быў зняць з пасад шэраг мясцовых чыноўнікаў.

Улада павінна ўважліва ставіцца да патрэб і клопатаў перасяленцаў, улічваючы існуючы ўклад іх жыцця. Тыя, хто займаліся і хочуць займацца земляробствам, павінны атрымаць участкі блізка ад месцаў пражывання, асабліва тыя, каго перасялілі ў гарады.

Калі чалавек хоча жыць у вясковым доме, яго нельга прымусова сяліць у кватэру гарадскога тыпу.

Аднак і людзям, якія ўладкоўваюць сваё жыццё на новых месцах, трэба разумець, што сёння дзяржава не мае магчымасці ў пажаданых памерах фінансаваць чарнобыльскія праекты.

У ходзе паездкі па Брэсцкай, Гомельскай і Магілёўскай абласцях я яшчэ раз пераканаўся ў неабходнасці вырашэння ўжо ў гэтым годзе шэрагу буйных праблем, якія закранаюць інтарэсы ўсіх чарнобыльцаў.

Нам трэба ў бліжэйшыя дні пачаць перагляд прававой базы ўсёй дзейнасці па мінімізацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы.

Неабходна змяніць пенсіённае заканадаўства для таго, каб больш поўна ўлічыць інтарэсы тых, хто пацярпеў ад чарнобыльскай аварыі.

Трэба ўстанавіць дапамогі па догляду дзяцей, аплату маці ў час дэкрэтнага водпуску, бясплатнае дзіцячае харчаванне.

Неабходна ўнесці карэктывы ў цэнаўтварэнне з тым, каб асноўныя прадукты харчавання, адзенне былі даступныя ўсім, хто пражывае ў чарнобыльскай зоне.

Урад павінен неадкладна прыняць меры па павышэнню дзяржаўнай дысцыпліны і адказнасці службовых асоб на ўсіх узроўнях за стан спраў у чарнобыльскіх раёнах і арганізацыю жыццядзейнасці людзей у месцах адсялення.

Мной ужо дадзены адпаведныя даручэнні і ўстаноўлены належны кантроль за іх выкананнем.

Ва ўмовах сацыяльна-эканамічнага крызісу нам не абысціся без дапамогі з-за мяжы.

Народ Беларусі ўмее цаніць і памятаць дабро. Мы шчыра дзякуем усім за падтрымку. Асаблівая наша ўдзячнасць — брацкаму расійскаму народу.

Вы ведаеце, што адной з галоўных мэтаў інтэграцыі з Расіяй з'яўляецца аб'яднанне намаганняў дзвюх краін па ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай трагедыі. Як Старшыня Вышэйшага савета Супольніцтва Беларусі і Расіі я запэўніваю вас у тым, што нашы сумесныя чарнобыльскія праграмы не застануцца на паперы, а будуць увасабляцца ў жыццё.

Але любая дапамога з-за мяжы пры ўсёй яе значнасці не можа, на жаль, у поўнай меры вырашыць нават часткі чарнобыльскіх праблем. Тым больш, што сусветнае супольніцтва астыла да людзей Чарнобыля. Так і хочацца сказаць: Бог яго ведае, дзе гэта можа паўтарыцца...

Мы павінны ясна ўсведамляць, што:

ніхто за нас не будзе вырашаць пытанні медыцынскага забеспячэння пацярпеўшых ад чарнобыльскай катастрофы;

ніхто за нас не будзе ствараць прымальныя ўмовы для жыцця ў забруджаных раёнах, для аднаўлення нашых вельмі багатых ворных зямель;

ніхто за нас не вырашыць праблемы жыццядзейнасці людзей, адселеных з чарнобыльскай зоны.

Таму мы павінны праяўляць максімальную адказнасць і самастойнасць.

Паважаныя суграмадзяне!

Сёння дзень смутку — 26 красавіка 1996 года, дзесяць гадоў пасля Чарнобыля.

У Мінску святым месцам для ўсіх чарнобыльцаў Беларусі стаў парк Дружбы народаў на скрыжаванні вуліц Арлоўскай і Карастаянавай. Там устаноўлены чарнобыльскі камень — сімвал нашай чарнобыльскай бяды. Тут жа праваслаўная царква ўзводзіць сваю капліцу.

Па ініцыятыве дзвюх буйных царкоўных канфесій, чарнобыльскіх грамадскіх арганізацый, ліквідатараў і перасяленцаў у гэты дзень у 16 гадзін 30 хвілін будзе праведзены хрэсны ход і жалобны мітынг з удзелам кіраўніцтва краіны, Прэзідэнта.

Запрашаю ўсіх мінчан, у чыім сэрцы стукае боль Чарнобыля, прыйсці на гэту журботную маніфестацыю.

Давайце нізка паклонімся тым, хто, ратуючы ў чарнобыльскае ліхалецце іншых, загінуў сам.

Давайце скажам шчырае дзякуй усім тым, хто ўсе гэтыя гады займаўся і працягвае займацца пераадоленнем вынікаў чарнобыльскай аварыі.

Беларускі народ перажыў у сваёй гісторыі не адну трагедыю. Упэўнены, што ў чарговы раз ён знойдзе ў сабе сілы мужна справіцца і з гэтай бядой.

Давайце аб'яднаем намаганні для стваральнай працы на карысць беларускага народа, у імя будучыні нашых дзяцей!



Калаж Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

## ДУША ШУКАЕ ПАРАТУНКУ...

***«Для нас гэта бяда мае ярка выяўлены пачатак, але не мае, на жаль, пакуль бачнага канца»***

*(З выступлення Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі 9 красавіка ў Вене на міжнароднай канферэнцыі «Дзесяцігоддзе пасля Чарнобыля: ацэнка наступстваў аварыі»).*

Увесь цывілізаваны свет, і Беларусь таксама, адлічвае часавыя паясы ад усімі прынятага грынвічскага мерыдыяна. Мы ж, беларусы, «па праву» можам карыстацца і яшчэ адным «мерыдыянам» — чарнобыльскім, які, умоўна кажучы, падзяліў нашу гісторыю на дзве няроўныя часткі — да і пасля Чарнобыля.

Доўгія дзесяцігоддзі нашых людзей вучылі: у нас узводзіцца і будуецца ўсё самае лепшае, самае вялікае. І толькі пасля самай маштабнай катастрофы XX стагоддзя ўсе ўбачылі: за гады панавання таталітарнай сістэмы ў нас расцвілі пышным цветам і самыя вялікія абыякавасць да сваіх грамадзянскіх абавязкаў, і халоднае раўнадушша ўлады да людзей. Вось адкуль узяўся той «гонар», якога мы, беларусы, ні ў кога не прасілі, — каб жыць нам давеку ў так званую постчарнобыльскую эпоху. Гісторыя з гэтай нагоды пачынае ўжо выстаўляць свае рахункі, бо і ў цяперашні час далёка не ўсе адказныя асобы, ад якіх залежыць вырашэнне праблемы, «палаюць вялікай любоўю» да гаротнага чарнобыльца.

Высвятляецца, што за прайшоўшыя дзесяць гадоў зноў дастаткова нарабілі памылак, наламалі дроў: І сёння прапануюцца канцэпцыі, у якіх сцвярджаецца, што радыяцыя, маўляў, «пасяпхова адступае» і на параненай зямлі Беларусі пачаўся так званы «аднаўленчы перыяд». Забруджаныя населеныя пункты росчыркам пяра часам «пераносяцца» ледзь не ў чыстую ад радыенуклідаў зону, а сотні тысяч бедных чарнобыльскіх дзяцей страчваюць права на бясплатнае аздараўленне...

Як выжыць неабароненаму чалавеку ў неспрыяльнай экалагічнай, сацыяльнай і эканамічнай атмасферы? Як прыстасавацца да незваротнага постчарнобыльскага стану? Дзе знайсці спакой сваёй змарнаванай душы? Ісці са сваімі «надакучлівымі» думкамі ў выканком да бяздушнага бюракрата-лайдака?

Не! Людзі звяртаюцца да Бога, ідуць у царкву.

Роўна тыдзень таму, у Светлую сядміцу, у Храм ушанавання іконы Божай Маці «Усіх тужлівых Радасце» памяці ахвяр Чарнобыля, што ў Мінску па вуліцы Прытыцкага, прыйшлі дзеці з бацькамі, якіх аб'ядноўвае Беларускае рэспубліканскае таварыства «Дзеці ў бядзе».

**Аўтар гэтых радкоў пазнаёміўся ў той дзень у храме з урачом-педыятрам дзіцячага анкалагічнага аддзялення НДІ анкалогіі ў Бараўлянах Галінай Стасенка, якая заўсёды апякае сваіх маленькіх пацыентаў. Яна з'яўляецца яшчэ і членам бацькоўскага камітэта таварыства «Дзеці ў бядзе». Вось што сказала Галіна Якаўлеўна:**

— Богаслужэнне адбываецца за здароўе нашых хворых дзяцей, якія лечацца, а таксама ў памяць тых, якіх ужо няма з намі. Я, як спецыяліст, у многім звязваю рост захворванняў з Чарнобылем. Многія з хвароб яшчэ не так моцна праявіліся, але ў будучым... Узрастае ж не толькі колькасць анкалагічных захворванняў у дзяцей, але і ў дарослых. Людзям абавязкова трэба дапамагаць, каб яны ў нешта верылі, умацаваліся ў гэтым. Медыцына ж не заўсёды і не ўсё можа, і бацькі хворых дзяцей звяртаюцца да вышэйшай сілы. Бо цяжка прывыкнуць да таго, што тваё дзіця такое хворае. Ды і наогул немагчыма.

... Як заўсёды на Светлую сядміцу, Велікоднае свята, адбылося ўрачыстае велікоднае богаслужэнне, прыйшоўшыя ў храм дзеці спавядаліся, прычасціліся Святых тайнаў Хрыстовых — дзеля таго, каб Гасподзь сапраўды дапамог ім у іх бядзе. Пасля хроснага ходу адбыўся падзячны малебен, упаміналіся за здароўе імёны тых дзяцей, якія прыйшлі ў храм, упаміналіся і іншыя імёны — дзяцей, якія ўжо ніколі не змогуць сюды прыйсці.

Храм гэты — адначасова і помнік ахвярам Чарнобыля. Таму прагучала і абавязковая ўрачыста-сумная чарнобыльская малітва:

«Госпадзі Ісусе Хрысце, Божа наш!

Дай прытулак усім пацярпеўшым ад ядзернай катастрофы ў Чарнобылі, не дай ім застацца без прытулку і надзеі на будучае жыццё, даруй ім мужнасць і веру ў Тваю ўсёмагутную дапамогу...

Ачысьці, Госпадзі, рукою Тваёю зямлю, паветра і ваду ад згубных наступстваў бяды, якая адбылася.

Абарані нас малітвамі Усёпрачыстыя Уладычыцы нашай Багародзіцы, усіх святых, у зямлі Беларускай прасвяціўшых, і ўсіх святых. Амін».

**Сустрэўся аўтар і з настаяцелем храма свяшчэннікам Ігарам КАРАСЦЯЛЁВЫМ. Ён шчыра і грунтоўна выказаў свой пункт погляду.**

— Айцец Ігар, у богаслужэнні гучыць пастаянная думка: «Смертью смерть поправ...»

— Сваім уваскрэсеннем Гасподзь наш якраз і перамог смерць. Гэта дае надзею, упэўненасць тым, хто жыве, што душа чалавека з усім, што ёй уласціва, пасля нашага зямнога жыцця не знікне. Гасподзь дае нам надзею на вечнае будучае.

— Бог і вера ў яго дае палёгку хворым дзецям, іх бацькам. Далёка не ўсе шукаюць палёгкі ў сваім становішчы ў зямных, так сказаць, уладаў...

— Вы, вядома, ведаеце, што і сёння хто-ніхто з адказных афіцыйных асоб пагаворвае: маўляў, Чарнобыль — гэта не так ужо і страшна. Ці трэба з імі спрачацца?

— Гэтая ядзерная катастрофа — наогул ненатуральная падзея. Цудоўная, але і знявечаная беларуская прырода — і раптам будзе без людзей? Мёртвая вёска, мёртвы горад, без жыхароў — што можа быць больш страшным і ненатуральным?

Трэба сказаць, што ёсць яшчэ і духоўны Чарнобыль, менавіта яго вынікам з'яўляецца Чарнобыль фізічны. Уявіце: семдзесят гадоў багаборніцтва ў краіне і грамадстве! Як толькі знішчылі ў чалавеку ўсё самае чалавечнае, самае светлае — так і «атрымалі плён». Якія могуць быць адносіны ў такім грамадстве, у тым ліку і да чарнобыльцаў?

Гл. 3-ю стар. ⇨

## НЕ ХВАРЭЙ!

**Ніл ГІЛЕВІЧ**

*ПАЭМА*

Не хварэй,
О мая Беларусь, не хварэй!
Страшна мне,
Што твой голас,
Пявучы і звонкі,
Так асекся, аслаб,
Што калі яго чую —
Супыняецца сэрца
І жыць не хачу я.

Не хварэй,
О мая Беларусь, не хварэй!
Страшна мне,
Што твой позірк,
Ласкавы і чысты,
Так прыцьмеў і схмурнеў,
Што калі яго бачу —
Разрываецца сэрца,
І горка я плачу.

Не хварэй.
О мая Беларусь, не хварэй!
Страшна мне,
Што твае шаўкавістыя косы
Так станчэлі,
Няйначай адваляцца скора.
Божа! Дзе мне дзявацца
Ад гэтага гора?..

Гл. 2-ю стар. ⇨

## ПАВЕДАМЛЕННЕ

**Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь**

**АБ СЯРЭДНЯМЕСЯЧНАЙ ЗАРАБОТНАЙ ПЛАЦЕ РАБОЧЫХ І СЛУЖАЧЫХ**

Мінстат Рэспублікі Беларусь паведамляе, што сярэдняя заработная плата рабочых і служачых у сакавіку 1996 года склала 1.142.032 рублі (у лютым была 1.089.878 рублёў). У студзені—сакавіку 1996 года яна склала 1.087.731 рубель і павялічылася ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года ў 2,2 раза.



*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

## У ПАРАДАК ВЫПЛАТЫ ЗАРПЛАТЫ ПРАПАНУЮЦЦА ЗМЕНЫ

Амаль цалкам першую палову дня 25 красавіка Вярхоўны Савет Беларусі прысвяціў ратыфікацыі дагавораў і пагадненняў, якія наша рэспубліка заключыла на працягу 1993—1996 гадоў з іншымі дзяржавамі.

У першую чаргу ўвазе дэпутатаў быў прадстаўлены пакет дакументаў, якія былі падпісаны 6 лютага 1995 года ў Вільнюсе. Гэта Дагавор аб добрасуседстве і супрацоўніцтве паміж Рэспублікай Беларусь і Літоўскай Рэспублікай, Дагавор аб беларуска-літоўскай дзяржаўнай граніцы і Пагадненне паміж урадам Рэспублікі Беларусь і ўрадам Літоўскай Рэспублікі аб «Аб'екце 500» і ГЭС «Дружба народаў». Нагадаю, што ў апошнім дакуменце размова ідзе пра два інжынерныя збудаванні, якія абслугоўваюць Ігналінскую АЭС, але знаходзяцца на нашай тэрыторыі. Першачарговасць разгляду гэтых дамоў была абумоўлена прыездам у Беларусь старшыні сейма Літоўскай Рэспублікі Чэславаса Юршэнаса. Як вядома, літоўскі заканадаўчы орган са свайго боку 23 красавіка ратыфікаваў памянёныя дакументы, таму для абмену ратыфікацыйнымі граматамі аналагічны крок патрабаваўся і ад Вярхоўнага Савета. З гэтай задачай парламентарыі справіліся без асаблівых спрэчак.

Потым наступіла чарга іншых міждзяржаўных і міжурадавых пагадненняў. Амаль без затрымак дэпутацкі корпус адобрыў Дагавор аб дружбе і добрасуседстве паміж Беларуссю і Украінай, Консульскую канвенцыю паміж нашай дзяржавай і Расіяй, Пагадненне аб правядзенні ўзгодненай палітыкі па транзіту прыроднага газу. Дэпутаты таксама ратыфікавалі пяць пагадненняў аб садзейнічанні і ўзаемнай абароне інвестыцый. Такім чынам, у лік краін, з якімі Беларусь будзе мець такія дамовы, учора ўвайшлі Украіна, Францыя, Румынія, Швецыя і Нідэрланды. Таксама пяць міжурадавых пагадненняў датычыліся пазбягання двайнога падаткаабкладання: з Малдовай, Літвой, Латвіяй, Расіяй і Кітаем.

Тым не менш, гэта невялікая частка дакументаў, якія маюцца на руках у дэпутатаў і чакаюць іх адабрэння. Сярод дагавораў, якія прадстаўлены ў Вярхоўны Савет, ёсць і Дагавор аб стварэнні Супольніцтва Беларусі і Расіі, падпісаны ў Маскве 2 красавіка 1996 года.

Гл. 3-ю стар. ⇨

РОЗДУМ І АСЭНСАВАННЕ

# ЧАС ЗБІРАЦЬ КАМЯНІ, або Год працвераджэння

## Ці змаглі ў Беларусі за дзесяцігоддзе ліквідацыі наступстваў Чарнобыля абараніць заложнікаў ядзернай катастрофы?

*З усіх справаздач самыя «арыфметычныя», нашпігаваныя лічбамі, — гэта, відаць, справаздачы па выкананню («асваенню» капіталаўкладанняў) тых ці іншых пазіцый чарнобыльскай Дзяржпраграмы. Але ці дае мех лічбаў карціну сапраўднага сённяшняга стану постчарнобыльскай сітуацыі ў Беларусі?*

*Не будзем аспрэчваць: так, за гэты час для чарнобыльцаў пабудавалі 60 тысяч жылых дамоў і кватэр, з зоны переселена больш як 130 тысяч чалавек. Газіфікаваны райцэнтры Карма, Чачэрск, Хойнікі, Нароўля, Ельск, Буда-Кашалёва, Чэрыкаў, Слаўгарад, пабудаваны дарогі, пракладзены водаправодныя сеткі і г. д. Аднак ці адпавядаюць велізарныя затраты народных грошай, страчаны час таму эфекту, які меркаваўся?*

*На гэта ў пэўнай ступені даюць адказ вынікі апошняй (красавіцкай) паездкі Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі ў забруджаныя раёны. Што ён сказаў у час падагульняючай нарады? Аказваецца, за мінулыя дзесяць гадоў... было зроблена шмат памылак! Самая страшная з іх — забруджаныя землі былі закінуты. Ёсць яшчэ памылкі? Ёсць! Напрыклад, бяздумнае перасяленне людзей, што выклікала мноства сацыяльных і іншых праблем. Заканамерна ўзнікае пытанне: а ці існавала ўсе гэтыя гады дакладна акрэсленая па арыенцірах чарнобыльская палітыка?*

*Ці вучымся на старых памылках? Не вельмі, бо ўжо сёння закручваем новыя «рэбусы». Нядаўна зацверджаны новы пералік тэрыторый і населеных пунктаў, што адносяцца да зон радыяцыйнага забруджвання, — адразу 200 тысяч чалавек былі пазбаўлены абсалютна ўсіх ільгот. На якой падставе гэта зроблена? Гэтыя дзеянні і называюцца «сацыяльнай абаронай» пацярпеўшых ад катастрофы?*

*Да гонару Прэзідэнта, ён адразу асэнсаваў, якая міна закладваецца на шляху яго ўнутрыдзяржаўнага курсу, і ў многім фактычна дэзавуіраваў рашэнне ўрада, даручыўшы яму тэрмінова падрыхтаваць пастанову, каб школьнікі ў забруджанай зоне па-ранейшаму маглі бясплатна харчавацца і дзеці аздараўляліся за кошт дзяржбюджэту. Аднак зноў пытанне: адкуль такое «рознагалоссе» ў вышэйшых сферах выканаўчай улады? Ніяк не скажаш, што гэта сведчанне ўзважанай, узаемаўвязанай чарнобыльскай палітыкі на сучасным этапе.*

*Свой пункт гледжання на сітуацыю выказвае намеснік старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета па праблемах чарнобыльскай катастрофы Міхаіл ГРУШЭЎСКІ.*

**— АДРАЗУ ВІДАЦЬ, Міхаіл Канстанцінавіч, што ваша «чарнобыльская» пошта практычна ідэнтычная нашай рэдакцыйнай. Хоць у кожнага скаржніка, зразумела, свае балячкі, аднак сутнасць большасці пісьмаў зводзіцца да чатырох-пяці бюракратычных сюжэтаў: ліквідатара, хоць у яго на гэта «званне» маюцца ўсе пацвярджальныя даведкі, прымушаюць бегаць па начальніцкіх кабінетах; перасяленцу адмаўляюць ва ўладкаванні на работу, жыхару зоны — у належных ільготах і г. д.**

**Разгледзець кожную скаргу з выездам на месца фізічна проста немагчыма. Дык можа для пачатку праінфармуем чытачоў, якія з ільгот, прадугледжаных чарнобыльскім заканадаўствам, засталіся, а якія вядомым указам адменены? Ці, мякка кажучы, дзеянне якіх «прыпынена»? Вельмі ўжо сёння ўсё заблыталася...**

— Прасцей будзе пералічыць тыя льготы, якія «адменены—прыпынены» (хоць я асабіста думаю, што гэта з'ява часовая). Дык вось, гэта датычыць беспрацэнтных пазык, а таксама беспрацэнтных пазык на будаўніцтва ці набыццё індывідуальных жылых дамоў, набыццё кватэр у жыллёва-будаўнічых кааператывах.

Адменены і бясплатны праезд у грамадскім транспарце. Не прадастаўляецца 50-працэнтная скідка з кошту праезду адзін раз у год у любы канец краіны туды і назад. Адменены і льготы па аплаце 50 працэнтаў кошту камунальна-бытавых паслуг, квартплаты і г. д.

**— Атрымліваецца, што калі мне трэба будзе павезці сына на аздараўленне, дык з-за дзікага кошту білетаў на аўтобус нам лепш пасядзець дома і ласавацца не вельмі «чыстай» бульбай з уласнага агарода?**

**З жыллём для жыхароў зоны наступнага адсялення, як бачым, атрымліваецца яшчэ больш цікава. У чыстай мясцовасці дзяржаўнай чарнобыльскай кватэры яму не належыць па закону, а пазыкі на яе будаўніцтва не дадуць. Дык гэта ж чалавеку абсеклі ўсе канцы! Значыць, сядзі на ўласным агародзе, на якім лічыльнік нашчоўквае 10—15 кюры, ды кармі роднае дзіця радыенуклідамі?! Ніштo сабе «падаруначак» на дзесятым годзе нацыянальнай трагедыі. Дарэчы, які механізм з'яўлення такіх «падарункаў»?**

— Справа выглядае наступным чынам. Прэзідэнт, маючы на гэта права, выйшаў у парламент з заканадаўчай ініцыятывай — накіраваў у Вярхоўны Савет праект закона «Аб упарадкаванні некаторых ільгот для асобных катэгорый грамадзян». На той час, пакуль гэты праект разглядаўся ў камісіях ВС, у выканаўчай улады ўзнікла спакуса пэўныя льготы ў зоне 1 — 5 кюры адразу адмяніць.

Вярхоўны Савет не пагадзіўся з такім падыходам, і льготы, закладзеныя дзеючым заканадаўствам, чарнобыльцам і ліквідатарам пакінуў. Тым не менш, многія з іх па-ранейшаму «адменены-прыпынены», знаходзяцца ў своеасаблівым «падвешаным стане», хоць гэта і не наша віна. Такая вось ідзе барацьба...

Ацэньваючы сітуацыю, выкажуся рэзка: у гэтых падыходах я бачу непавагу да свайго народа, у прыватнасці да чарнобыльцаў. А яны ж якраз і маюць патрэбу ў моцнай сацыяльнай абароне.

Дзе карані такога жорсткага курсу? Вядома, паднацiскае МАГАТЭ, іншыя ўплывовыя заходнія структуры (а Беларусь, між іншым, адлічвае ў яго «касу» немалую суму долараў!) Тут і жорсткія патрабаванні МВФ — час ужо, маўляў, вам заканчваць з гэтымі сацыяльнымі выплатамі, «утрыманствам».

**— Няхай МВФ скажа гэта той жа Швецыі, дзе найвышэйшы ўзровень сацыяльных выплат і абароны насельніцтва!**

— Тут усё даўно пара паставіць на свае месцы: тое, што прадугледжвае наша чарнобыльскае заканадаўства, па сутнасці зусім не льготы ў ранейшым сацыялістычным «варыянце». Гэта (падкрэсліваю!) кампенсацыя людзям за страчанае здароўе. Так робіцца ўсюды ў свеце — у ЗША, Францыі, Германіі, іншых краінах. Але ж з'яўляецца яго вялікасць «двайны стандарт»: «сваім» можна ўсё, у адносінах жа да нас — адразу вокрык.

Мы ў сябе ў Беларусі павінны былі б даць людзям поўную кампенсацыю яшчэ на першым этапе — адразу пасля аварыі на ЧАЭС. Не далі! Аднак паабяцалі: вось вам у якасці кампенсацыі льготы, сацыяльныя выплаты робім вам кожны год. Замацавалі гэта заканадаўча. І вось што ў выніку атрымалі!

Адчуваю, як апаненты рвуцца ў бойку: у нас разбураная эканоміка, у дзяржавы няма грошай, каб плаціць чарнобыльцам. І гэта называецца «доказам»?

У Расіі і на Украіне эканоміка не лепшая, але там чарнобыльцы сацыяльна куды мацней абаронены, намнога большыя там і сацыяльныя выплаты. І ніхто ў гэтых дзяржавах, заўважце, і не думае замахвацца на правы пацярпеўшых ад атама.

Па ходу размовы заўважыў бы яшчэ, што нам не варта прыходзіць ў дзіцячае захапленне з нагоды магчымай дапамогі з боку Расійскай Федэрацыі ў вырашэнні нашых праблем. Расія сама выконвае сваю чарнобыльскую праграму толькі на 18 працэнтаў, а яна там па аб'ёму меншая, чым у Беларусі. У красавіку ў складзе дэлегацыі нашага парламента я пабываў у некаторых расійскіх абласцях і ўбачыў: інвестыцыі там усе «замарожаны». Тыя ж бальніцы ў зоне не будуюцца па пяць гадоў — якраз як у нас.

Адзінае, што можна тут будзе зрабіць, — гэта падкарэкціраваць чарнобыльскае заканадаўства, каб яно ў трох нашых суседніх краінах стала уніфікаваным і льготы былі б аднолькавыя.

**— Час, Міхаіл Канстанцінавіч, зрабіць першую выснову: падыход нашых уладаў да праблем пераважнай большасці чарнобыльцаў — звышпрагматычны, жорстка-эканамічны. Але як можна са спакойнай душой у нашага грамадства з яго «чарнобыльскай самасвядомасцю» праштурхоўваць тэзіс: каб абараніць свой народ ад радыяцыі, ва ўрада сродкаў няма і не прадбачыцца?**

— Тады разбяром эканамічны бок справы. Уся сума выплат па Закону аб сацыяльнай абароне пацярпеўшых ад Чарнобыля, вядома, вельмі значная. Але што «выйграла» дзяржава, што «зэканоміла» менавіта ад адмененых ільгот? Усяго толькі 152 мільярды рублёў.

Напомню, што ўвесь кансалідаваны бюджэт Беларусі — 56 трыльёнаў, на чарнобыльскую праграму адпушчана 4,6 трыльёна рублёў. Такім чынам, ад усяго кансалідаванага бюджэту «адкінутыя» льготы складаюць... 0,27 працэнта! Вось дзеля якой «вялікай эканоміі» нарабілі шуму ў краіне, узбударажылі чарнобыльскае насельніцтва! Гэта — узважаная палітыка?

Між іншым, каму-нікаму можна было б і больш уважліва ўгледзецца, на якія структуры і колькі ідзе грошай. Узяць хоць бы структуры таго ж МУС. Суседняя з намі Польшча па насельніцтву ў чатыры разы большая за Беларусь, а работнікаў праваахоўных органаў там столькі ж, колькі і ў нас. А мы спрачаемся, дзе браць сродкі...

**— Вашу думку зразумеў: збалансаваць дзяржбюджэт у нас імкнуцца за кошт неабароненых жыхароў забруджанай зоны. Падыход, зразумела ж, непапулярны, а таму патрэбна «ідэалагічнае забеспячэнне», пэўная база.**

— Гэтая «база» ўжо якраз і падведзена. Называецца яна «Канцэпцыя ахоўных мераў у аднаўленчы перыяд для насельніцтва, якое пражывае на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь і падверглася радыеактыўнаму забруджванню ў выніку чарнобыльскай катастрофы». Гэта такая «хітрая» канцэпцыя, што яна дае магчымасць дзяржаве зняць з сябе адказнасць за лёс мільёнаў сваіх грамадзян. Не буду пераказваць, як праштурхоўваўся гэты сацыяльны заказ яшчэ мінулага ўрада, — у газетах такая інфармацыя ўжо была. Скажу толькі пра тое, што шырокай грамадскасці яшчэ невядома.

19 студзеня гэтага года ў Вярхоўны Савет прыйшоў з урада дакумент, у якім гаворыцца, што Кабінет Міністраў пастановай ад 30 лістапада 1995 года № 650 адобрыў гэтую канцэпцыю. А Дзяржпраграма (распрацаваная, зразумела, на аснове «новай» канцэпцыі) была адобрана ўрадам ужо... 12 верасня мінулага года. Як зразумець гэтыя таямнічыя «нажніцы» ў тэрмінах і ўвогуле непаслядоўнасць дзеянняў?

Сама ж канцэпцыя, наколькі вядома, у Акадэміі навук Беларусі так і не была толкам разгледжана і не адобрана. Так што пакуль гэта ніякі не дакумент, але ж, глядзіце, якія лёсаносныя для людзей рашэнні прымаюцца ўжо на падставе «зацверджанай» канцэпцыі. Таму мы зрабілі запыт і ў Акадэмію навук, і ў Пракуратуру Рэспублікі Беларусь. Калі ж у выніку дакументальна пацвердзіцца, што тут мелі месца парушэнні законных правілаў і працэдур, то трэба будзе ставіць пытанне аб адказнасці афіцыйных асоб, якія гэтымі «гульнямі» займаліся.

Не трэба забываць і пра пастанову ўрада № 116, ад 19 лютага гэтага года — гэтым самым «змянілі» граніцы радыеактыўнага забруджвання, шмат населеных пунктаў з зоны з узроўнем 1—5 кюры ўжо сталі быццам бы «чыстымі». Напрыклад, у Чачэрску і Нароўлі яшчэ нядаўна было да 15 кі/кв. км, а цяпер яны апынуліся ўжо ў зоне 5—10 кюры. Гэта што, за дзесяць гадоў радыяцыйная абстаноўка ў Беларусі палепшылася амаль ў два разы? Каго падманваем?

Ці варта ўжо гаварыць пра такую «дробязь», што гэтым рашэннем адразу сотні тысяч дзяцей у зоне былі пазбаўлены законнага права на аздараўленне! Добра, што хоць Прэзідэнт хутка адрэагаваў і запатрабаваў гэтае права захаваць.

**— Вось і атрымалася: пасля гучных фанфар і ўзнёслых справаздач наступіла працвераджэнне. Шмат камянёў, па біблейскаму выразу, раскідалі мы за прайшоўшы час, калі планавалі і будавалі на «чарнобыльскім полі» не заўсёды тое што трэба, быццам бы і займаліся ліквідацыяй наступстваў катастрофы, а чалавек у зоне заставаўся сам па сабе.**

**У нашага Прэзідэнта пасля паездак у забруджаныя раёны наступіў, можна сказаць, своеасаблівы момант ісціны, калі ён убачыў правалы ў чарнобыльскай стратэгіі і таму выказаўся так: наламалі дроў, запалохалі людзей, сагналі іх з месца. Словам, даў ацэнку «прафесіяналізму» тых, хто прымаў надуманыя рашэнні.**

**Што застаецца? Збіраць тыя «камяні», а заадно і матэрыяльныя рэсурсы. І зноў закасваць рукавы. Ці не так, Міхаіл Канстанцінавіч?**

— З гэтай высновай увогуле згодны. Мазаіка фактаў і падзей, даўно мінулых і зусім нядаўніх, пацвярджае, што дакладнай і паслядоўнай (а таму і — выніковай) чарнобыльскай палітыкі ў нас сапраўды не назіралася. У многім гэта звычайнае шараханне, а іншы раз і бездапаможнасць пры прыняцці рашэнняў.

Так што над урокамі дзесяцігоддзя, якое прайшло пасля катастрофы, усім нам трэба моцна задумацца і асэнсаваць іх. Каб праз наступныя дзесяць гадоў не прыйшлося займацца тым жа самым.

**Інтэрв'ю правёў Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**

## УВЕКАВЕЧАНЫ ПОДЗВІГ МІЛІЦЫІ

Праз чарнобыльскае пекла прайшлі каля чатырнаццаці тысяч работнікаў міліцыі і ўнутраных войскаў нашай рэспублікі. Там, на забруджаных землях Брагінскага, Хойніцкага і Нараўлянскага раёнаў, першыя групы іх ужо дзейнічалі ў апошнія дні і ночы красавіка 1986 года, калі афіцыйныя органы Савецкага Саюза і Беларусі аб выбуху на чацвёртым блоку Чарнобыльскай АЭС яшчэ маўчалі.

Асноўная нагрузка лягла на плечы работнікаў падраздзяленняў Гомельскага УУС і аператыўнай групы Міністэрства ўнутраных спраў рэспублікі, якія 3 мая 1986 года на базе Хойніцкага РАУС арганізавалі штаб па ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Не шкадуючы сіл і здароўя, работнікі міліцыі дапамагалі эвакуіраваць насельніцтва, дзяжурылі на кантрольна-прапускных пунктах, патрулявалі ў небяспечнай зоне і г. д., і ніхто з іх не здрадзіў свайму прафесіянальнаму абавязку.

Можна з упэўненасцю сказаць, што міліцыя дзень пры дні і тады, у 1986 годзе, і пасля, у постчарнобыльскі перыяд, здзяйсняла подзвіг, звязаны з ліквідацыяй вынікаў аварыі. Сёння каля сямідзесяці працэнтаў тых, хто ўдзельнічаў у гэтых работах, па медыцынскіх паказчыках аднесены да катэгорыі асаблівай рызыкі, многія сталі інвалідамі, а многія ўжо пайшлі ад нас на векі вечныя.

У памяць аб іх гэтымі днямі на будынку Хойніцкага РАУС, дзе ў 1986 годзе размяшчаўся штаб УУС Гомельскага аблвыканкома і аператыўнай групы Міністэрства ўнутраных спраў рэспублікі, ва ўрачыстай абстаноўцы была адкрыта мемарыяльная дошка, якую асвяціў айцец Уладзімір. На мітынгу выступілі начальнік Гомельскага УУС Віталь Апанасевіч, намеснік міністра ўнутраных спраў рэспублікі Мікалай Крэчка, старшыня Хойніцкага райвыканкома Алег Акушка, былы начальнік Гомельскага УУС, віцэ-прэзідэнт рэспубліканскай асацыяцыі «Шчыт Чарнобылю» Святлан Сазанкоў, начальнік Віцебскага УУС Аляксандр Пахомаў, намеснік начальніка следчага ўпраўлення Гомельскага УУС, дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі Леанід Глухоўскі. У гэты ж дзень пад гукі жалобнай мелодыі ў суседнім Брагіне дэлегацыя міліцыі з усіх абласцей рэспублікі і пажарнай службы ўсклалі кветкі да бюста Васіля Ігнаценкі, які загінуў пры тушэнні пажару на Чарнобыльскай АЭС. Дэлегацыя хвілінай маўчання ўшанавала памяць памёршых і загінуўшых ад «мірнага» атама.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

ЧАРНОБЫЛЬ У ДЗІЦЯЧЫМ ЛЁСЕ

# УСПАМІНЫ АБ БУДУЧЫМ

*Памяць аб ядзернай катастрофе, фізічныя і матэрыяльныя яе наступствы — усё разам ціснe на людзей цяжкім прэсам. Наш лёс цяпер — ці выстаяць пад гэтым цяжарам, знайсці ў сабе сілы, каб пераадолець бяду, ці, апусціўшы рукі, проста здацца. Ці настроіліся мы на перамогу — і кіруючыя структуры, і наша грамадства, і кожная канкрэтная асоба сама па сабе?*

*Лёс нацыі, калі не ўдавацца ў залішнія «філасофстваванні», — гэта лёс кожнага грамадзяніна, памножаны на колькасць усіх нас. Гледзячы ж праз «чарнобыльскую прызму», лепш за ўсё, думаецца, асэнсоўваць гэтае важнейшае пытанне на прыкладзе чалавека, які толькі ўступае ў жорсткае кола праблем нашай суровай постчарнобыльскай рэчаіснасці.*

*Што думаюць пра чарнобыльскую катастрофу, яе вынікі і сваё далейшае жыццё тыя, хто хутка прыйдзе на змену нам, дарослым? Пры ўсёй «несур'ёзнасці» іх разваг і высноў (што яшчэ, між іншым, трэба даказаць!) варта памятаць тое, што народжана тысячагадовай мудрасцю народаў усіх краін свету, а менавіта: «Вуснамі немаўляці гаворыць ісціна».*

*Думкі, выказаныя вучнем-падлеткам Яраславам Бязлепкіным, якраз і з'яўляюцца такой інфармацыяй для роздуму.*

*Калі грымнуў чарнобыльскі выбух, яму не было і чатырох гадоў. Да гэтай «падзеі» ён быў увогуле актыўным, жыццярадасным хлопчыкам. Шэсць гадоў разам з бацькамі пражыў пасля ядзернай катастрофы на забруджанай радыяцыяй зямлі Чачэрска, і як гэтае «бяспечнае» жыццё адбілася на яго здароўі, можна зразумець з яго ліста. Дзякуй Богу, што ў фондзе «Спадчына Чарнобыля» знайшліся добрыя людзі, якія змаглі арганізаваць адпраўку Яраслава на аперацыю да амерыканскіх урачоў. Зноў жа, дзякаваць Богу, ён цяпер жывы, увогуле здаровы і дзеліцца з намі ўсім сваім перажытым.*

*Застаецца дадаць, што сваё сачыненне Яраслаў, як і многія іншыя дзеці, падрыхтаваў пры выкананні творчага задання пад назвай: «Я вам пішу». Гэты вучнёўскі твор прадаставіў газеце для апублікавання Рэспубліканскі цэнтр дзіцяча-юнацкага турызму і экскурсій Міністэрства адукацыі і навукі, які правёў літаратурна-краязнаўчую віктарыну «Зямля бацькоў — жыцця крыніца».*

*Чытачам жа меркаваць, чаго ў гэтых думках-успамінах больш — тугі і смутку ці аптымізму і надзеі, веры ў тое, што ўсё абыдзецца і ўсе мы зажывём так, як таго заслугоўваюць нашы людзі і іх дзеці.*

## Добры дзень, мой дарагі каштанчык!

Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

Не, хутчэй каштан, бо цяпер ты вялікі і высокі, хутка будзеш роўны з Палацам школьнікаў (былым палацам графіні Чарнышовай). Памятаеш, я ад'язджаў з Чачэрска — ты быў аднаго са мною росту? А калі садзіў — наогул маленечкім дрэўцам.

Мы жылі ў доме непадалёку. Гулялі ля палаца штодзень. Стогадовыя, мабыць, старыя-старыя таполі і больш маладыя клёны давалі прытулак у нашых дзяіцячых гульнях. Не памятаю ўжо, хто з нас, здаецца, Міша Серыкаў прапанаваў аднойчы:

— Давайце пасадзім дрэўцы! Тут вунь колькі свабоднага месца, цэлы лужок...

І мы пасадзілі недзе каля дваццаці дрэўцаў. Мая сястра Аксана сказала, што яе дрэвам будзе ліпа. Яе сяброўка Алеся Серыкава таксама пасадзіла ліпу. Сяргей і Дзіма Новікавы завіхаліся ля саджанцаў таполяў. Я, як самы малодшы, выбраў маленькае-маленькае дрэўца. Хлопцы сказалі, што гэта каштан.

З таго часу мы раслі з табою разам цэлых пяць гадоў. Памятаеш, у першае спякотнае лета я часта паліваў цябе? Ты рос марудна. Ліпкі Аксаны і Алесі раслі хутчэй і вымахалі пад два метры. Не адставалі ад іх астатнія дрэўцы. І толькі ты як бы «сядзеў» на месцы, не зацвітаў ні ў першую вясну, ні ў другую, ні ў трэцюю, ні ў чацвёртую. Ты выкінуў белыя свечкі толькі ў той памятны май 1992 года. Праз некалькі тыдняў я развітваўся і з табою, і з гэтым ціхім зялёным двяром, і з палацам, у якім была такая цудоўная дзіцячая бібліятэка, і з горадам. З Чачэрскам развіталася ў той час палова вучняў нашай школы.

Першага верасня я прыйшоў у новую школу з пакетам, у якім ляжаў зменны абутак. І быў здзіўлены, што ў школе ніхто не пераабуваецца, баючыся прынесці разам з пяском радыяцыю. Мне ўсё было ў навіну і ў радасць. Не трэба было браць дазіметр, каб знайсці «самае нерадыяцыйнае» месца для гульняў. Не трэба было баяцца доўга знаходзіцца на вуліцы. Слова «радыяцыя» хутка перастала гучаць у нашай сям'і.

Ішлі гады, усё пакрыху забываецца. Я рэдка бываю ў Гомелі, дзе нарадзіўся. Ніводнага разу не быў у Чачэрску — горадзе, дзе бегаў у дзіцячы садок, а потым у школу з першага па трэці клас. Сёння ўсе мае чачэрскія сябры таксама жывуць у іншых месцах: Міша — у Лепелі, Валера — у Гродне, многа аднакласнікаў — у мікрараёне Малінаўка горада Мінска, першая настаўніца, Кацярына Яўлампіеўна Сінькова, — у вёсцы Арэшнікі Смалявіцкага раёна. Здаецца, няма ў мяне да каго ехаць у Чачэрск.

Я прыехаў бы да цябе, дарагі дружа каштан. Я часта цябе ўспамінаю. Год назад, пасля аперацыі ў Чыкагскім інстытуце сэрца, я ляжаў у палаце і чамусьці там, на другім канцы свету, успамінаў нашу ціхую вуліцу Ульянава, наш зялёны дворык і цябе, каштанчык. А нядаўна ў Мінску ў час абследавання ў дыспансеры Інстытута радыяцыйнай медыцыны я сустрэў вучняў нашай былой СШ N 2 г. Чачэрска. Размовы былі невясёлыя: у адной дзяўчынкі сур'ёзнае захворванне шчытападобнай залозы, у хлопчыка катастрафічна падае зрок. Мы яшчэ паўспаміналі некалькіх сваіх знаёмых, якія засталіся з бацькамі жыць у Чачэрску. Ты іх павінен бачыць, яны ж ходзяць міма цябе ў Палац школьнікаў, у гуртке ці ў бібліятэку.

Я з'ехаў, а ты застаўся. Для мяне — не толькі добрым успамінам, але і сімвалам будучыні. Некалі, калі я вырасту, а білеты на аўтобус не будуць такімі дарагімі, я прыеду да цябе. Збяромся разам — Міша, Валера, Алеся, Віталь, Сяргей, Дзіма, Аксана, Іра, Саша.

А пакуль — трывай, дружа! Расці дужым, будзь нязломным, такім мужным, як людзі, якія засталіся жыць у нашым родным горадзе.

**Яраслаў БЯЗЛЕПКІН, вучань 7 «В» класа СШ № 203 г. Мінска.**

Ніл ГІЛЕВІЧ

# НЕ ХВАРЭЙ!

ПАЭМА

Гл. 1-ю стар.

I

*Ціхім ліпеньскім днём,*
*Праз чатыры гады*
*Ад чарнобыльскай —*
*Жудкай, жахлівай бяды,*
*Я прыехаў у край,*
*Што зрабіўся гаротным,*
*Зацярушаны*
*Ядзерным пылам смяротным.*

*Па асфальтавым,*
*Бойкім калісь бальшаку*
*Лёгкі рафік вязе нас*
*На Прыпяць-раку.*
*Быў ён бойкім, а зараз...*
*Памёрла шаша:*
*Каб адна хоць дзе-небудзь*
*Мільгнула душа!*
*Ці машына якая,*
*Ці трактар, ці воз...*
*Азірнешся наўкол —*
*І па скуры мароз.*

*То праз лес, то праз поле*
*Наш рафік бяжыць,*
*Міма вёсак бязлюдных*
*Дзе болей не жыць, —*
*Ні кахаць, ні раджаць,*
*Ні дзяцей гадаваць,*
*Ні дамы будаваць,*
*Ні абед гатаваць...*

*Еду. Пільна гляджу,*
*З горкай думай пра лёс.*
*А праз шэры асфальт*
*Буйны пырнік прарос.*
*Атлусцелыя зайцы*
*На ўзбочках шашы*
*Не шалопяць, што трэба*
*Баяцца машын.*
*Шнурам дзікія свінні*
*Ідуць на папас —*
*Не звяртаюць*
*Ніякай увагі на нас.*
*Дзве касулі стаяць*
*У высознай траве.*
*Дапатопным спакоем*
*Звяр'ё тут жыве.*
*Тут даўно не было*
*Чалавечай нагі.*
*Захмызелі палеткі.*
*Здзічэлі лугі.*

*Так да Прыпяці самай*
*Нас рафік давёз —*
*Да маруднае плыні*
*Пад навіссю лоз.*
*«Толькі сцежкай, за мной, —*
*Просіць нас праваднік, —*
*Каб у вобуй у ваш*
*Пыл з травы не пранік...»*

*Я на вышку ўзышоў.*
*Я гляджу на ЧАЭС —*
*На трагедыі здань,*
*На пракляцце-прагрэс.*
*Дзе ў далёкай смузе*
*Дол і неба маўчаць —*
*Карпусы над зямлёй,*
*Як пачвары, тырчаць.*

*Страшны лёс, што дасюль*
*Нас у гурт не з'яднаў,*
*У абліччах бяды*
*Бачыў я ўжо і знаў.*
*Бачыў смерць, што ішла*
*Вараннём-груганнём,*
*Каб у неба пусціць*
*Край наш дымам-агнём.*
*Бачыў смерць, што дзяцей,*
*Абдзяліўшы ядой,*
*Спухлых, сініх ужо,*
*Клала ўпокат у дол.*
*Бачыў смерць, што ліла*
*Яд сівушны ў стакан,*
*Каб хутчэй беларус,*
*Абыдлеўшы, здыхаў...*
*Але ў гэткім абліччы*
*Пракляцця-бяды*
*З нас не бачыў ніхто —*
*Ні ў якія гады.*
*Ад сяла да сяла,*
*Па зямлі, па вадзе,*
*Па крыві, па касцях*
*Смерць нябачна ідзе.*
*І нічым не спыніць,*
*І нічым не стрымаць,*
*І не знае ніхто,*
*Як жыццё ратаваць.*
*Бегчы прэч — як мага?*
*Уцякаць — колькі сіл?*
*А куды — уцякаць?*
*За які небасхіл?*
*За які далягляд*
*Ты збяжыш-уцячэш,*
*Калі цэзій з дажджом*
*Па ўсім краі цячэ?*
*Дзе той шчыт ці бар'ер,*
*Каб жыццё затуліць,*
*Калі пыл-смерцявік*
*Па ўсім краі ляціць?..*

* * *

*«Зараз вёску пабачым, —*
*Сказаў праваднік, —*
*Скуль мы ўсіх адсялілі*
*Тады ж, аба дні.*
*Гэта блізка зусім —*
*За якой паўвярсты...»*
*Едзем. Справа сцяной —*
*Дрот калючы, густы.*
*Зона гэтая ўся*
*Абгароджана спрэс,*
*Каб шакал-марадзёр*
*Пажывіцца не лез.*
*Вось вароты — праезд*
*У сцяне драцяной.*
*Я зірнуў — і адчуў:*
*Штосьці стала са мной.*
*Быццам ток пранізаў.*
*Пачакайце, браткі!*
*На бляшаным шчыце —*
*Бляклы надпіс: Бранькі.*
*«Гэта вёска Бранькі?» —*
*Я спяшу ўдакладніць.*
*«Так, Бранькі, — уздыхнуў*
*Мне ў адказ праваднік. —*
*Я тут часта бываў,*
*Меў па жонцы радню...»*
*«Жыхароў ... зналі шмат?»*
*«Ды, бадай, бальшыню.»*
*«А не зналі, часам,*
*Марка Шчэдрык тут жыў...»*
*«Знаў! Цікавы быў дзед.*
*З маім сватам дружыў.»*
*« А дачку яго, Насту?»*
*«А як жа! Яна*
*Тут жыла, пры бацьках,*
*Ну а потым — адна.»*
*«Без сям'і?» — «А ў яе*
*Мужыка не было.*
*Быў, вярней. Ды калісь*
*Гора з ім развяло.*
*Ён падводнікам быў.*
*Спіўся ўшчэнт — і труба.*
*Выбачайце, а вы*
*Насту зналі хіба?»*
*«У студэнцтве мы з ёй*
*Сябравалі крыху...»*
*Аж знямеў праваднік.*
*Што за здзіў на слыху?*
*«Вы і з Настай?» — «А што?»*
*«Ды нічога, але...*
*Як такое не мог*
*Я пачуць ад яе?!*
*Столькі ў гэтых Браньках*
*Меўшы з ёю размоў!*
*Ну скажу, ну скажу —*
*Як убачымся зноў!..»*
*«А яна — дзе жыве?»*
*«У райцэнтры ў сястры.»*
*«А здароўе?» — «На жаль,*
*Горш і горш з той пары...»*

*Тут, шаноўны чытач,*
*Будзеш рад ці не рад, —*
*Год на сорак дазволь*
*Мне вярнуцца назад.*

II

*І ўспыхнула ў памяці*
*Даўняе лета.*
*Студэнт-летуценнік,*
*Я быў закаханы*
*У Насту —*
*І верыў, наіўны, што гэта*
*І ёсць ужо лёс мой —*
*Шчаслівы, жаданы.*
*У горад, дзе Наста —*
*Студэнтка таксама —*
*У Тэклі старэнькай*
*Жыла кватаранткай,*
*Тым летам*
*Пайшла ад мяне тэлеграма:*
*«Прыеду ў нядзелю.*
*Маскоўскім. Уранку.»*

*Я ехаў да Насты*
*З вялікай трывогай.*
*Штось сталася:*
*Колькі ёй пісем адправіў —*
*Яна ж у адказ мне*
*Ні слова, нічога!*
*І нават на песню,*
*Пасланую ў траўні.*

*О, тая*
*Дасюль не забытая песня*
*У гонар*
*Чароўнай дзяўчынкі з Палесся!*
*Я помню, як ехаў,*
*Як вёрсты мільгалі,*
*А вусны шапталі*
*І ўсё паўтаралі:*

*«Ты — ад роднай зямлі:*
*Цёплай, ласкавай, ворнай;*
*Ад вады на зямлі —*
*І рачной, і азёрнай;*
*Ад сунічных палян,*
*Ад бароў сухадолых,*
*Ад лугоў-мурагоў,*
*Ад вятрыскаў вясёлых...*

*Ад зямлі, ад зямлі —*
*Ты зямная, зямная,*
*І прыйшла ў мае сны*
*З ярай квеценню мая,*
*І таму ў валасах*
*Светларуса-шаўковых*
*І ў далонях тваіх*
*Водар зёлак маёвых.*

*Ад зямлі, ад зямлі —*
*Ты і ў снах, і ў малітвах.*
*Бачу ножкі ў расе —*
*У травінках наліплых;*
*Бачу вусны твае —*
*Іх пылком запыліла,*
*Як духмяны букет*
*Ты да твару туліла.*

*Дык чаму ж, як цябе*
*Я не бачу, зямную,*
*Я зусім не зямным —*
*Зорным сумам сумую?*
*А таму, што не толькі*
*Для шара зямнога —*
*Для сусвету ўсяго*
*Майго суму замнога!..»*
*Я верыў у шчасце!*
*Таму без вагання*
*Падаўся з вакзала*
*У ціхі завулак,*
*Дзе домік у садзе,*
*Куды на расстанні*
*Прынёс ёй як сімвал*
*Букет незабудак...*

*Вось зараз,*
*Вось выйдзе,*
*Адчыніць мне дзверы.*
*Вось, звязкам зазвякаўшы,*
*Ключ падбірае...*
*На крок адступіла,*
*І нібы не верыць,*
*І нечым збянтэжана*
*Тэкля старая.*

*«Дзень добры!*
*Даруйце, калі ранавата.»*
*«Дзень добры! Заходзьце!»*
*«А Настачка ўстала?»*
*«Устала і — знікла.*
*Не снедаўшы нават.*
*Паехала Наста.*
*Куды — не сказала.*

*Заходзьце ж! З дарогі —*
*Крыху адпачніце...»*
*І крэсла для госця*
*Падсунула міла.*
*«Вы мне выбачайце,*
*Вы тут пасядзіце,*
*Там прымус на кухні*
*Якраз распаліла...»*

*У домік у гэты*
*Заходзіў я часта:*
*Бывала, так рана*
*І так нечакана —*
*Наўмысна — каб трохі*
*Злавалася Наста,*
*Што вочы*
*Яшчэ пазіраюць заспана.*

*Што вусны*
*Яшчэ не гатовы спаткацца.*
*Хоць сэрца:*
*«Гатовы! Гатовы!» — крычала.*
*А сёння...*
*Гатова душа разарвацца.*
*Чаму — не спаткала?*
*Чаму — не чакала?*

*Вярнулася Тэкля,*
*Зірнула спагадна:*
*«Яна вам усё*
*Напісала ў паперку.*
*Учора. Як толькі*
*Прыйшла тэлеграма.*
*Я зараз дастану,*
*Схавала ў куфэрку...»*
*І вось я чытаю —*
*І чую: па твары,*
*Па сэрцы, па мыслях —*
*Гарачае нешта.*
*«Даруй мне, мой слаўны,*
*Мой добры таварыш:*
*Мы мусім расстацца*
*Не з крыўды, канешна.*

*Ты кепска не думай.*
*Так выйшла. Так трэба.*
*Мне іншая*
*Суджана доля на свеце.*
*Я веру:*
*Душэўная гэта мінтрэга*
*Цябе не надломіць...*
*Бывай, мой паэце!»*

*Як громам прыбіты,*
*Сядзеў я знямелы.*
*Што значыць*
*Страшэнная гэта загадка?*
*Так трэба?*
*Ды свет жа зацемрыўся белы!*
*Над прорвай ішоў я —*
*І трэснула кладка!*

*А зрэшты... А зрэшты,*
*Ну што тут не ясна?*
*Усё — натуральна.*
*Усё — зразумела.*
*Ты ў лёс свой шчаслівы*
*Паверыў заўчасна.*
*Дзяўчынка з Палесся*
*Той веры не мела.*

*Не будзь ёй суддзёю.*
*Ёй іншая вера*
*Па міласці Божай*
*Душу акрыліла.*
*Пакуль ты тут выеш*
*Параненым зверам...*
*Ну што табе вусны*
*Пакутна скрывіла?*

*Не будзь ёй суддзёю!*
*І сам не пакутуй!*
*О, Божа! Хіба я*
*Суджу і караю?*
*Але й спачування*
*Не трэба банкруту.*
*Хіба я пакутую?*
*Я ... паміраю.*

III

*Крочым вёскай. Былой.*
*Што ні хата, ні двор —*
*Ні прыкметы жыцця:*
*Быццам выкасіў мор.*
*Цішынёй, нематой*
*Жах усё тут спавіў.*
*Хоць бы кот дзе прабег*
*Ці сабака завыў...*
*Дух пустэчы паўсюль.*
*Дух магільнага тхла.*
*Прыпыніліся: «Тут*
*Наста Шчэдрык жыла.»*
*Хата ўся ў бур'яне.*
*Аж да самай страхі —*
*Не вяргіняў кусты —*
*Лебяды кіяхі.*
*Хоць за дротам Бранькі*
*І шнуруе надзор —*
*Ні вакон, ні дзвярэй:*
*Зняў і звёз марадзёр.*
*«Зойдзем?» — «Зойдзем, — кажу. —*
*Не прыйшлося тады —*
*Хоць цяпер пагляджу —*
*На няшчасця сляды...»*
*А глядзець гэта — страх.*
*Поўны рэзрух-пагром!*
*Смецце. Друз. Чарапкі.*
*Табурэтачны лом.*
*Неданошаны вобуй.*
*Рыззё. Рызманы.*
*Вось — праўдзівы наш лёс,*
*Без прыўкрас, без маны.*
*У кутку, сярод смецця*
*І бітага шкла*
*«Беларуская мова»*
*Прытулак знайшла.*
*Знаны школьны падручнік!*
*А што ж ён?.. Няўжо*
*Пераселеным, там —*
*Не спатрэбіцца ўжо?*
*Ды напэўна! Калі*
*Гіне вотчыны край.*
*Гіне люд, дык і мова*
*Канае няхай!..*

* * *

*Зноў пыліцца прасёлак.*
*Бяжыць краявід.*
*Зноў сказаў прыпыніцца*
*Наш ветлівы гід.*
*«Там вунь вёска была...*
*Вёска Новы Пакроў.*
*Невялічкая, праўда:*
*Шаснаццаць двароў.*
*Ну, а зараз, як бачыце,*
*Пуста наўсцяж.*
*Вёска знікла.*
*Нязвыкла змяніўся пейзаж...*
*Не, не звезлі.*
*Куды ж яе звозіць адсюль?*
*Закапалі ў зямлю.*
*Да бярвенца! Усю!*
*Як нябожчыцу ў дол —*
*Пахавалі навек...*
*Каб смяротнай бядой*
*Дух не выйшаў наверх.*

*Моўчкі едзем далей —*
*У здранцвенні тупым.*
*На вясковым дзядзінцы —*
*Чарговы прыпын.*
*Каля крамы — натоўпам —*
*Жанчыны, дзяды.*
*На абліччах — пячаць*
*Непапраўнай бяды.*
*Страху, роспачы,*
*Крыўды бязмернай пячаць.*
*Вусны — сцята маўчаць.*
*Вочы — нема крычаць.*
*Падыйшла маладзіца*
*З двайнёй на руках, —*
*І галосіць, і просіць,*
*Сама ў сіняках:*
*«Памажыце нам, людцы!*
*Не дайце сканаць!*
*Месяц чыстых харчоў*
*Не завозяць да нас!*
*Ні харчоў, ні лякарстваў —*
*Нічога няма!..»*
*«Сціхні! — крыкнуў ёй дзед. —*
*Што скуголіш дарма?*
*Колькі ўжо прыязджала*
*Атвесцвенных ліц?*
*Паглядзяць — і паедуць!*
*А што ім? Баліць?*
*Абяцанняў насыпяць*
*На добры ўспамін.*
*А прадукты лячэбныя —*
*Дзеткам сваім!..»*
*Маладзіца замоўкла.*
*Маўчыць і натоўп.*

*Абяцаем.*
*І з ганьбай*
*Садзімся ў аўто.*

* * *

*О, мая Беларусь*
*На пакутным крыжы!*
*Гэта бачачы ўсё —*
*Як мне жыць, адкажы?*
*Гэта бачачы ўсё,*
*Гэта знаючы ўсё,*
*Гэта помнячы ўсё*
*Кожнай фібрай душы?..*

*Не хварэй!*
*О, мая Беларусь, не хварэй!*
*Страшна мне,*
*Што твой голас,*
*Пявучы і звонкі,*
*Так асекся, аслаб,*
*Што калі яго чую —*
*Супыняецца сэрца*
*І жыць не хачу я.*

*Не хварэй!*
*О, мая Беларусь, не хварэй!*
*Страшна мне,*
*Што твой позірк,*
*Ласкавы і чысты,*
*Так прыцьмеў і схмурнеў,*
*Што калі яго бачу —*
*Разрываецца сэрца,*
*І горка я плачу.*

*Не хварэй!*
*О, мая Беларусь, не хварэй!*
*Страшна мне,*
*Што твае шаўкавістыя косы*
*Так станчэлі —*
*Няйначай адваляцца скора...*
*Маці!*
*Як цябе выбавіць*
*З гэтага гора?*

1990—1996

